# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ.

№ 41 (554) ГОД XI БЕЛАСТОК, 9 КАСТРЫЧНІКА 1966 г. ЦАНА 60 ГР.


**У НУМАРЫ**


Уладзіслаў Браneўскі
Я СЫН ТОЙ ЗЯМЛІ...

Максім Танк
БАЛАДА ПРА ПАРТЫЗАНА ДУБЯГУ

Кшыштаф Вуйтовіч
З-ПА-НАД ВАРТЫ НА ЭБРА.




Валя Гайдук і Янка Крупа.

## ФЕСТЫН У КРЫНКАХ

Праўленне Сакольскага аддзела БГКТ супольна з мясцовымі актывістамі Таварыства наладзілі ў Крынках у нядзелю 25 верасня беларускі фестын прысвечаны братэрскай дружбе і сяброўскаму сужыццю беларускага і польскага народаў.

Насельніцтва Крынак, мясцовыя і павятовыя ўлады аднесліся да мерапрыемства беларускіх актывістаў са шчырым зацікаўленнем. У фестыне прыняў удзел першы сакратар Павятовага камітэта ПАРП у Саколцы, тав. Ян Дзенісюк і сакратар Павятовага камітэта Аб'яднанага стронніцтва людовага, Аляксандр Рафаловіч, які адначасова з'яўляецца старшынёю Праўлення Сакольскага аддзела БГКТ.

Фестын быў назначаны на 3-юю гадзіну пасля абеду. Арганізатары пабаяліся капрызаў асенняга надвор'я і дагаварыліся з кіраўніком кіно. На паўгадзіны перад пачаткам фестыну ля крынкаўскага кіно «Мальва» сабралася ўжо шмат крынкаўцаў. Прасторная зала не змагла ўсіх змясціць. Больш адважныя вучні ўлазілі на сцэну, дзе за сталом размясціўся прэзідыум.

З дакладам, аб узаемных суадносінах беларусаў і палякаў на працягу многіх стагоддзяў, аб супольнай іх барацьбе за нацыянальную і палітычную незалежнасць — выступіў інструктар ГП БГКТ на Сакольскі павет, Анатоль Севасцьянюк.

Далей быў прадбачаны бясплатны канцэрт беларускай эстрады «Лявоніха». Яна, на жаль, спазнілася. Людзі аднак не разыходзіліся і цярпліва чакалі, нават даволі доўга.

Артысты «Лявоніхі» выступілі ў Крынках са сваёй новай праграмай і ў новым асабовым складзе. Партнёршай танцору Янку Крупе з'яўляецца цяпер **Валя Гайдук** — вучаніца балетных курсаў праф. Бекер у Беластоку. Валя працавала ткачыхай у фастаўскім баваўняным камбінаце. Яна аднак так любіць танец, што рашыла пакінуць завод і паступіць у эстраду. Новай салісткай з'яўляецца **Марыся Мароз** — выпускніца Педагагічнага ліцэя ў Бельску. Зараз яна адначасова працуе настаўніцай у вёсцы Сацы, дзе два разы ў тыдзень мае ўрокі, вывучае завочна музыку ў Беластоцкай Настаўніцкай студыі і прыгожа спявае ў эстрадзе «Лявоніха».

Канцэрт «Лявоніхі» надзвычай падабаўся крынкаўцам. Яны штораз паўтаралі: «Каб часцей, каб часцей».

Вечар крынкаўская моладзь правяла на танцах.

Тэкст і фота В. Р.

УСТУПАЙЦЕ Ў ЧЛЕНЫ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.

Кангрэс Польскай Культуры

## ГАВОРАЦЬ ДЭЛЕГАТЫ



**АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ (Алесь Барскі), доктар філалагічных навук Варшаўскага універсітэта, вядомы паэт-лірык, ад Беларускага таварыства дэлегат на Кангрэс.**

— Беларусы ў Польшчы складаюць частку агульнадзяржаўнага і культурнага арганізма. Іх уклад у польскую культуру на працягу 1000 год несумненны.

Усе культурныя працэсы ў краіне нас датычаць і цікавяць. Таму так істотнай і для нас з'яўляецца такая падзея, як Кангрэс Культуры Польскай.

Найбольшай радасцю было б, каб можна было сказаць на Кангрэсе, што зрабілі беларусы, асабліва на працягу пасляваенных 20-ці год, у галіне культуры і што хацелі б зрабіць у бліжэйшы час. Бо напэўна Кангрэс не абмяжуецца да таго, што зроблена, але і намеціць шляхі, праграму на будучыню. У сувязі з тым, што нас не здавальняе ўсё яшчэ тое, што зроблена БГКТ у галіне культуры, маем не мала планаў, якія не заўсёды могуць быць рэалізаваны ў цяперашніх умовах. Выносячы гэтыя планы на форум Кангрэса, хутчэй, пры большай падтрымцы дзяржавы, зможам іх зрэалізаваць.

**— Да найважнейшых якія?**

— Я б залічыў: 1) Апрацоўку акрэсленага статута для беларускага школьніцтва і асабліва праўнай пазіцыі беларускай мовы ў школах, якая дагэтуль астаецца менш важнай ад іншых прадметаў. 2) Мастацкі рух, яго мадэрнізацыя, пашырэнне на песню, развіццё фалькларыстычных беларускіх калектываў. 3) Выдавецкая - літаратурная і навуковая дзейнасць. Ведаючы сітуацыю маладых польскіх паэтаў і празаікаў, мушу сказаць, што дагэтуль беларускія аўтары знаходзяцца ў многа горшай сітуацыі, чым іх польскія

**(Працяг на стар. 5)**



Г. Кулісевіч. «Жанчыны ў полі»

## Хрэстаматыі для 8 класа

*У кнігарнях Бельска, Гайнаўкі, Сямяціч, Беластока і Саколкі паявіліся хрэстаматыі для 8-ых класаў, выданыя ў Мінску для савецкіх школ. Цана падручніка 3,60 зл. Значная частка матэрыялаў з савецкага падручніка ёсць і ў нашай праграме для 8 класа. Асабліва добра зроблена ў падручніку распрацоўка рамана І. Шамякіна «Крыніцы».*

*Даўжэйшыя творы, з увагі на тое, што занялі бы ў «Нівы» вельмі шмат месца, у нашай газеце друкавацца не будуць. Якраз гэтыя творы можна будзе знайсці ў савецкай хрэстаматыі. Такім чынам, маючы гэты падручнік і карыстаючыся матэрыяламі з «Нівы», настаўнікі могуць без асаблівых клопатаў рэалізаваць праграму навучання роднай мовы і літаратуры ў 8-х класах.*

*(яч)*

## Заслужаная ўзнагарода Ваеводскай бібліятэкі і яе дырэктара

*У папулярызацыі і развіцці чытальніцтва (таксама беларускага) Ваяводская бібліятэка ў Беластоку мае вельмі вялікія заслугі. Зрабіла яна многа на адсталых культурна землях даўняй Польшчы Б. Зараз Беласточчына належыць да найбольш дынамічных раёнаў краіны, калі рэч ідзе пра зацікаўленне кніжкай. У розных чытальніцкіх конкурсах якраз Беластоцкае ваяводства займае першыя месцы.*

*Нядаўна Ваяводская бібліятэка за свае заслугі атрымала з рук старшыні Ваяводскага камітэта Фронту адзінства народа пасла Станіслава Юхніцкага Адзнаку Тысячагоддзя. Дырэктар бібліятэкі Уладзіслаў Малеўскі атрымаў індывідуальную адзнаку Тысячагоддзя.*

*Віншуем сардэчна кніжцы і яе людзям.*

*(вл)*

## Будзе зноў Беларускі хор

*Праўленне Беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ прыступіла да арганізавання Беларускага хору ў Беластоку.*

*Запісы прымае інструктар аддзела кожны дзень (акрамя панядзелкаў) пасля 18-ай гадзіны ў памяшканні ГП вул. Варшаўская 11. Будучы хор павядзе Міхаіл Ануфрыеў.*

*(вл)*

Паўзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Вестkі

## СВЕТ

### НА СЕСІІ ААН

У мінулым тыдні выступаў на Сесіі міністр заграніцных спраў Францыі Куў дэ Мюрвіль. Многа ўвагі прысвяціў ён справе в'етнамскай праблемы. Падкрэсліў ён, што в'етнамскі канфлікт можа быць урэгуляваны толькі і выключна шляхам перагавораў. Гэтыя перагаворы павінны давесці да жэнеўскіх пагадненняў. Першы крок на шляху вяртання міру ў В'етнаме павінны зрабіць ЗША. З В'етнама трэба вывесці ўсе чужыя вайска і забараніць іх вяртання.

Таму, што амерыканская інтэрвенцыя ў В'етнаме выклікала працэс эскалацыі ваенных дзеянняў — Злучаныя Штаты павінны зрабіць першы крок у напрамку перагавораў і вяртання міру ў гэтай краіне.

Міністр Куў дэ Мюрвіль заявіў, што трэба даць магчымасць усяму в'етнамскаму народу рашаць аб сваіх справах ва ўмовах поўнай свабоды, — на іх уласную адказнасць і незалежна ад таго, які лад захочуць сабе выбраць.

### ШТО ПРЫВЁЗ ЭРХАРД З ЗША

Канцлер Эрхард, перад паездкай і ў часе яе, ясна акрэсліў мэты свайго візіта. Галоўнае замыкалася ў тым, каб дабіцца ад ЗША рашэнняў, якія далі б «атамную роўнасць ФРГ у рамках НАТО». Як сцвярджаюць каментатары, Бону і на гэты раз не ўдалося дабіцца поспехаў. Амерыканскія палітыкі не могуць не ўлічаць міжнароднай абстаноўкі і сусветнага пратэсту супроць дапушчэння бундэсвера да ядзернай зброі.

Але Эрхард не вярнуўся з пустымі рукамі. «Нямецкі бок, — піша газета «Франкфурцер альгемайнэ», — выражае задавальненне, таму што дзверы для супольнага рашэння (ядзернай праблемы — рэд.) не былі закрыты».

### ЧОМБЕ-ПАД СУД

Моіз Чомбе ў хуткім часе стане перад надзвычайным ваенным трыбуналам. Яго абвінавачваюць за дзяржаўную здраду. Былы прэм'ер-міністр Конга Чомбе зараз знаходзіцца ў Мадрыце або Бруселі. Справу ў абвінавачанні Чомбе ў дзяржаўнай здрадзе выклікалі прэзідэнт Мабуту і прэм'ер Муламба.

### АПОШНІ З НЮРНБЕРГА

Дакладна ў 20 год пасля прыгавору нюрнбергскую турму, у Шпандаў у Заходнім Берліне, пакінулі пасля адбыцця пакарання былы правадыр Гітлерюгенд Бальдур фон Шырах і міністр узбраення Альберт Шпэр.

### НАСЕЛЬНІЦТВА РУМЫНІІ

15 сакавіка 1966 года ў Румыніі было 19.105.056 жыхароў, з чаго 49% — мужчыны, а 51% — жанчыны. На працягу 10-ці год колькасць насельніцтва Румыніі ўзрасла на 1.615.000, г.зн. 9,2%. Румыны складаюць 87,8% насельніцтва. (ак)

## БССР

### НОВАЕ

Ведаем, што Беларусь мае многа нафты і, пераважна, на беларускай нафце працуе польская петрахімія. Нядаўна адкрыта новае месцанараджэнне нафты — так званае Асташкавіцкае — на Палессі.

### БЯССМЕРЦЕ

У Мінску адбыліся ўрачыстасці ў гонар васьмісотгоддзя геніяльнага грузінскага паэта Шота Руставелі, аўтара паэмы «Віцязь у тыгравай скуры», якая лічыцца шэдэўрам сусветнай літаратуры.

«Віцязь у тыгравай скуры» — перакладзена на беларускую мову і надрукавана ў прыгожым кніжным выданні.

### РАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ

На Бабруйскім машынабудаўнічым заводзе ўведзена рацыяналізацыю ў адліўцы жалезных частак. Мадэлі да адліўкі роблена дагэтуль з дарагога алюмінію. Цяпер гэтыя мадэлі будуць робленыя з так званай, эпаксіднай смалы. Пробы з гэтай смалою ўдаліся. Ужыванне гэтай смалы дае вялікую эканомію сродкаў і рабочай сілы. Гэту самую прадукцыю зможа зараз выконваць у шэсць разоў менш рабочых, чым дагэтуль.

Трэба дадаць, што Беларусь адчувае востры недахоп рабочай сілы, людзей.

### НАЗЫВАЮЦЬ

Беларусь называюць «тарфяным Данбасам» або «тарфяным Уралам», з увагі на вялізныя паклады торфу ў абшарыстых беларускіх дрыгвянніках ды пушчах, дзе будуецца шмат тарфяных заводаў.

### ВІНАГРАД

У Пінску вырашчана семдзесят пяць гатункаў вінаграду. Пакуль што гэта яшчэ навуковы дослед, эксперымент, хаця ўжо ў некаторых палескіх гаспадарках вырошчваюць многа вінаграду.

### ЗАГАЛОЎКІ

**«А чым ты дапамог міліцыі?»** Такія больш-менш загалоўкі паўтараюцца ў беларускіх газетах у сувязі з тым, што ў сучасны момант пачалася вострая барацьба супраць хуліганства і разбою.

### ПІСЬМО

Школьнікі Мар'інагорскай школы №3 у Мінскай вобласці на працягу многіх год збіраюць матэрыялы аб жыцці і рэвалюцыйнай дзейнасці Леніна. Нядаўна школьнікі атрымалі пісьмо ад першага сакратара Цэнтральнага Камітэта Мангольскай народна-рэвалюцыйнай партыі Ю. Цэдэнбала.

### ФІЛЬМ

На экранах Беларусі ідзе папулярны фільм «Альпійская балада». Сцэнарый да гэтага слыннага фільма напісаў гродзенскі пісьменнік Васіль Быкаў.

## ПОЛЬШЧА

### КАНГРЭС ПОЛЬСКАЙ КУЛЬТУРЫ

У Варшаве ў Вялікім тэатры оперы і балету адбываецца Кангрэс Польскай Культуры. Сабралося там звыш 2000 асоб: дэлегатаў, якія прадстаўляюць розныя раёны і асяроддзі нашай краіны, і запрошаных гасцей — з Польшчы і з-за мяжы. Кангрэс Культуры з'яўляецца адным з найважнейшых мерапрыемстваў у святкаванні 1000-годдзя Польскай Дзяржавы.

(Больш падрабязна аб Кангрэсе напішам у наступным нумары).

### ЧАРГОВЫ СТУДЭНЦКІ ГОД

77 вышэйшых навучальных устаноў, якія існуюць у нашай краіне, 1-га кастрычніка пачало чарговы акадэміцкі год працы. Студэнцкая армія налічвае ў нас амаль 270 тысяч чалавек. Яны вучацца на дзённых, вячэрніх, завочных і паслядыпломных вышэйшых навучальных установах. Найбольш, бо звыш 80 тыс. студэнтаў, вучыцца на інжынераў. Першы год навукі пачало 60 тыс. студэнтаў. Надалей найбольш моладзі (амаль 20 тыс.) вучыцца ў Варшаўскім палітэхнічным інстытуце.

### ДЗЕСЯТЫ «ТЫДЗЕНЬ»

Першы тыдзень кастрычніка ўжо 10 раз адзначаецца ў нас як «Міжнародны тыдзень пісання лістаў». Гэта ў гонар першай міжнароднай паштовай канвенцыі, якая была ўстаноўлена 9 кастрычніка 1874 года. Прадбачваецца шмат розных мерапрыемстваў, а сярод іх у Варшаўскім палацы навукі і культуры будзе наладжана аграмадная выстаўка, якая адлюструе гісторыю польскіх паштовых марак.

### ВРОЦЛАЎСКІ ТЭЛЕВІЗІЙНЫ ЦЭНТР

У Вроцлаве пачаў працу новы тэлецэнтр. Пабудаваны ён за грошы Грамадскага фонду будовы сталіцы і краіны. Урачыстасць па перадачы ў карыстанне вроцлаўскага тэлевізійнага цэнтра супала з 20 гадавінай працы польскай радыёстанцыі ў Вроцлаве.

### ПРЫГАВОР ЗА АНТЫПОЛЬСКУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ

Ваяводскі суд у Шчэціне аб'явіў прыгавор для нейкага Тадэуша Ліпскага за антыпольскую дзейнасць. Жыў ён у Штакгольме (Швецыя) і нагаварваў польскіх грамадзян, якія наведвалі Швецыю, да антыдзяржаўнай дзейнасці, абяцаючы ў замен грошы. Яго падкупная дзейнасць давяла да суда аж 7 чалавек, грамадзян нашай краіны. Т. Ліпскі часта асабіста наведваў Польшчу і тады намагаўся перавозіць не дазволеныя тавары. Перад судом прайшло каля 50 сведкаў. Яны пацвердзілі пракуратарскія абвінавачанні. Ліпскага засудзілі на 4 гады турмы і 550 тыс. зл. кары. Разам з ім разглядаліся справы 6-ці польскіх грамадзян, якіх засудзілі на арышт і грашовыя пакаранні.

## ВАЯВОДСТВА

### СЯМЯЦІЦКАЯ «ТЫСЯЧАГОДКА»

У нядзелю, 2 кастрычніка, адбылося ў Сямяцічах урачыстае адкрыццё новай школы, Помніка Тысячагоддзя Польскай Дзяржавы. Куратар Эдвард Крынскі ў сваім выступленні сказаў, што сямяціцкая Тысячагодка з'яўляецца 1236-ым у краіне і 35-ым у ваяводстве, а другім у Сямяціцкім павеце Помнікам Тысячагоддзя Польшчы. Намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Людвік Ахоцкі, перарэзаўшы традыцыйную стужку, уручыў ключы да новай школы кіраўніку Тадэушу Смарчэўскаму.

### НОВЫ НАВУЧАЛЬНЫ ГОД БЕЛАСТОЦКАГА МЕДІНСТЫТУТА

3-га кастрычніка г.г. у Беластоцкім тэатры імя А. Вянгеркі адбылося ўрачыстае пасяджэнне з нагоды пачатку новага навучальнага года ў Беластоцкай Медыцынскай акадэміі. Прынялі ў ім удзел прафесары і другія навуковыя работнікі Акадэміі, студэнты і прадстаўнікі беластоцкай грамадскасці. З прамовай выступіў рэктар праф. др Людвік Камчынскі. Многія работнікі Беластоцкай Медыцынскай акадэміі атрымалі цэнныя ўзнагароды ад міністра здароўя і рэктара за вялікія навуковыя дасягненні.

### БЕЛАВЕЖСКІ МАСТАЦКІ ПЛЕНЕР

Цэлы месяц верасень знаходзіліся ў Белавежы мастакі з усяе краіны. 1 кастрычніка г.г. жыхары Белавежы і госці, якія прыбылі на ўрачыстае заканчэнне пленеру, маглі пазнаёміцца з 130-мі працамі, якія мастакі стварылі ў час пабыўкі ў Белавежы. Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел: І-шы сакратар ВК ПАРП, пасол А. Лашэвіч і намеснік старшыні Прэзідыума ВРН, Л. Ахоцкі.

### КОНКУРС ПКО

Як штогод ПКО аб'явіла вялікі кастрычніцкі конкурс. Хто абавяжацца, што на працягу 3-х бліжэйшых месяцаў не парушыць сваіх фінансавых ашчаднасцей складзеных у ПКО, прыйме ўдзел у лясаванні вартасных узнагарод, якія разам каштуюць 2 мільёны 700 тысяч злотых. Для тых, хто на працягу 4-ох месяцаў захавае ашчаднасці, прызначаецца дарогай лясавання 5 легкавых аўтамашын. У конкурсе можа прымаць удзел кожны ўласнік ашчаднай кніжачкі ПКО, калі ў яго на конце знаходзіцца прынамсі 300 злотых або шматкратнасць гэтай сумы. Кожныя 300 зл. даюць права на адзін лёс, які прымае ўдзел у лясаванні ўзнагарод.

### ПАЖАРЫ

Ад 26 верасня да 2 кастрычніка г.г. здарылася на Беласточчыне 20 пажараў. У гэтым ліку: 10 сярэдніх і 4 вялікіх, а рэшту ўдалося пажарнікам пагасіць у зародышу. Затраты ацэньваюцца на суму ў 420 тысяч злотых.

## Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

**NIEDZIELA 9. X.**

8.30 Politechnika TV. Geometria wykreślna — „Elementy wspólne"; 9.05 Politechnika TV. Chemia — „Ciężar cząsteczkowy, moll, równoważnik chemiczny, stężenie"; 9.35 29 lekcja jęz. ros.; 9.55 Politechnika TV. Matematyka — „Odpowiedzi na pytania"; 10.25 Przerwa; 10.55 Program dnia; 11.00 Wiad. dz. TV; 11.10 „W starym kinie"; 12.10 „Trzeci Maja" — dramat z roku 1791 Jerzego Krasowskiego. Wykonawcy: Cz. Wołłejko, B. Pawlik, M. Pawlicki, E. Fetting, S. Wyszyński, M. Gajda; 12.25 Gra Orkiestra Taneczna Telewizji Katowickiej; 13.55 „Piórkiem i węglem"; 14.15 „Gdzie my, tam granica" — film tv pol. („Czterej pancerni i pies"); 15.20 Dla dzieci: „Rycerze" — telezabawa; 16.05 Dla dzieci: „Ula ma kota"; 16.25 „Ludzie i zdarzenia" — rep. film.; 16.40 „Ojczyzna" (montaż poetycki). Wykonawcy: A. Ciepielewska, Z. Hobot, W. Kowalski, M. Milecki; 17.20 „Laureaci Nagród Państwowych w plastyce XX-lecia" — rep. film.; 17.35 „1000 lat kultury polskiej" — teleturniej; 18.25 Sprawozdanie filmowe z III dnia obrad sesji Kongresu Kultury Polskiej; 18.55 Bezpośrednia transmisja z uroczystości zamknięcia Kongresu Kultury Polskiej; 20.00 Dobranoc; 20.10 Dziennik TV; 20.40 Kabaret SZPAK. Wykonawcy: H. Bielicka, A. Janowska, J. Jedlewska, H. Skarżanka, J. Wołłejkówna, B. Wrzesińska, M. Czechowicz, W. Gliński, M. Opania, B. Płotnicki, A. Szczepkowski; 21.30 Niedziela Sportowa; 21.50 „Jego wielka miłość" — film fab. pol. (archiwalny); 23.10 Wiad. sportowe.

**PONIEDZIAŁEK, 10.X.**

16.55 Program dnia; 17.00 Wiad. dz. TV; 17.05 Dla dzieci: „Ślady na śniegu" — film („Opowieści znad rzeki"); 17.15 Dla młodych widzów: „Refleks"; 17.35 „7 milionów młodych"; 17.55 „Spacerkiem po kinach"; 18.30 Wieczór poświęcony pamięci Stefana Jaracza. Uroczysta Akademia z okazji 35-lecia Teatru Ateneum w Warszawie; 19.30 Dobranoc; 19.40 Dz. TV; 20.10 Teatr TV: „Za kulisami" — dramat Cypriana Norwida. Wykonawcy: A. Śląska, M. Głowacka, D. Nagórna, T. Borowski, M. Pawlicki, J. Radwan, M. Voit, S. Baczyński, J. Kostecki, M. Maciejewski, J. Łotysz i inni; 21.40 „Eureka"; 22.20 Dz. TV.

**WTOREK, 11.X.**

10.55 Dla szkół: (kl. X) Język polski — F. Schiller „Zbójcy" („Dzieje dramatu"); 11.35 „Kto jest bez winy" — film fab. CSRS; 13.10 Przerwa; 15.55 Program dnia; 16.00 Politechnika TV. Matematyka — „Wektory i działanie na nich" cz. I; 16.30 Politechnika TV. Matematyka — „Wektory i działanie na nich" cz. II; 17.00 Wiad. dz. TV; 17.05 Dla dzieci: „Zręczne ręce" 17.20 Dla młodych widzów: „Zapraszam na wtorek wieczór" z wizytą u Jerzego Broszkiewicza; 17.50 Informator handlowy; 17.55 Kurs Rolniczy: „Uprawa pszenicy ozimej" („Produkcja zbóż"); 18.25 „Śląskie Kolorado" — teleturniej; 18.55 „Próby" — miesięcznik konsumenta; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Kto jest bez winy" — film fab. CSRS; 21.50 Panorama Literacka; 22.20 Dz. TV; 22.35 „Na półkach księgarskich"; 22.45 Program na jutro; 22.50 Politechnika TV. Matematyka — „Wektory i działanie na nich" cz. I; 23.20 Politechnika TV. Matematyka — „Wektory i działanie na nich" cz. II.

**ŚRODA, 12.X.**

9.40 „Mam tu swój dom" — film fab. pol.; 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) „Z wizytą w Sejmie" („Wychowanie obywatelskie"); 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Kauczuk — guma"; 12.25 Przerwa; 14.35 Program dnia; 14.40 PKF; 14.55 Sprawozdanie sportowe; w przerwie ok. 15.45 „Przypominamy — radzimy"; 16.45 30 lekcja jęz. ros.; 17.05 Wiad. dz. TV; 17.10 Dla młodych widzów: „Zwykłe sposoby — niezwykłe sekrety"; 17.30 „Nie tylko dla pań"; 17.50 Wszechnica TV; 18.15 „Lira" — program poetycko-muzyczny; 18.50 „Płyń po morzach i oceanach"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Defilada Tysiąclecia" — rep. film. 20.30 „Nasze Ludowe" — program na Dzień Wojska Polskiego; 20.45 „Mam tu swój dom" — film fab. pol.; 22.05 „Światowid"; 22.35 Dziennik TV.

**CZWARTEK, 13.X.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Rok 1905 w Królestwie Polskim"; 12.25 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. V) Język polski — „Maria Konopnicka" („Spotkania"); 11.25 Przerwa; 16.25 30 lekcja jęz. franc.; 16.50 Program dnia; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: Kino Ptyś; 17.20 Dla młodych widzów: „Klub Pancernych"; 17.40 „Tramp"; 18.30 „Dzień pokoju" — film; 18.40 „Między palem a jadalnią"; 19.00 „Legenda o św. Jadwidze" — program dokumentalny; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Wizerunek Naczelnika" — film Tele-Ar; 20.10 Teatr Kobra: „Zbrodniarze" — widowisko kryminalne wg Malcolma Hulke i Erica Paice; 21.15 „Jazz Jambore 1966" — otwarcie festiwalu zespołów jazzowych; 22.15 Dz. TV; 22.30 Program na jutro; 22.35 30 lekcja jęz. franc.

**PIĄTEK, 14.X.**

10.55 Dla szkół: (kl. lic.) „Panorama" — wiadomości o Polsce i swiecie; 11.25 Przerwa; 12.00 Dla szkół: (kl. IV) „Czy znasz Bieszczady?"; 12.20 Przerwa; 16.25 30 lekcja jęz. angl.; 16.50 Program dnia; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.15 Dla młodych widzów: „Schronisko na przełęczy" — film („Bella i Sebastian"); 17.40 Dla młodych widzów: „Poszukiwacze skarbów" — reportaż; 18.00 Wszechnica TV: — „Uczeni w mundurach"; 18.30 „Wielokropek"; 18.45 „Na morskich szlakach"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 TV Kurier Mazowiecki; 20.15 Teatr TV: (Łódź) „Obręcz korony" — sztuka L. Budreckiego i E. Szustera; 21.25 „10 minut recenzji"; 21.35 „Muza z paszportem"; 22.00 Dz. TV; 22.15 „Skrzyżowanie dróg"; 22.40 Program na jutro; 22.45 30 lekcja jęz. angl.

**SOBOTA, 15.X.**

10.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „Kształt ziemi"; 11.30 „Na południe od St. Louis" — film fab. USA; 12.50 Przerwa; 16.15 Program dnia; 16.20 Program tygodnia; 16.35 Dla nauczycieli: „W Młodzieżowym Domu Kultury" („Problemy wychowawczy"); 16.55 Wiad. dz. TV; 17.05 Dla młodych widzów: „Konkurs 5 milionów"; 18.05 „Spotkania z przyrodą"; 18.30 „Tele-Echo"; 19.05 „Wieczorne rozmowy"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 „Belphegor" — film. fr.; 20.30 Piosenki wojskowe; 21.30 Dz. TV; 21.45 Wiad. sportowe; 21.55 „Na południe od St. Louis" — film fab. USA; 23.25 Francuskie piosenki rozrywkowe.



◆ ◆ ◆

Я сын той зямлі, што ў няволі, сын вольнай, як птушка, песні.
Аб чым жа, аб чым спяваць мне, як дом мой і тло і руіны?
Бяду майму сэрцу і гора верасня дні прынеслі,
А зброі не маюць рукі, без зброі мая айчына.
Ды я на айчыну вярнуся, хачу загаіць яе раны,
Хачу палымнець над светам сэрца і песні пажарам,
Хачу, каб з руін Варшавы рос сацыялізм жаданы,
Хачу, каб сігнал мар'яцкі чырвоным шумеў штандарам.
Гордасць мая, Варшава, слава тваім руінам!
Хачу цалаваць твае раны, кожны каменьчык дольны.
Дай жа руку, Беларусь, мне, дай мне руку, Украіна,
Дайце ваш серп на дарогу, молат ваш дайце вольны.
Вольнымі будуць народы, сіла ў сцятай далоні!
Дні праміnуць, і новы свет закрасуе весні.
Бяззбройнай пішу рукою, не помшчу, хоць дужы сёння
Я, сын той зямлі, што ў няволі, сын вольнай, як птушка, песні.
1939 г.

**Уладзіслаў Бранеўскі**

1. Аб якім перыядзе ў гісторыі Польшчы гаворыць паэт?
2. Што ведаеш аб нападзе гітлераўскай Германіі на Польшчу ў 1939 годзе?
3. Паспрабуй растлумачыць словы паэта: «Зброі не маюць рукі, без зброі мая айчына», і словы: «Хачу, каб з руін Варшавы рос сацыялізм жаданы, хачу, каб сігнал мар'яцкі чырвоным шумеў штандарам».
4. Як адносіцца паэт да БССР?
5. Чаму паэт называе песню вольнай птушкай?
6. Прыгадай іншыя, вядомыя табе вершы Ул. Бранеўскага.

**А. Баршчэўскі, В. Швед.**

# Дружба і праца

**ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VIII КЛАСА**

## Балада пра партызана Дубягу

Прысніўся Дубягу ў абозе сон,
Што ў родную хату прыехаў ён.
Спыніў каля брамы каня-скакуна,
Акликнуў — нікога, кругом цішыня.
Прыкладам з балтоў аканіцы сарваў
І глянуў, і хаты сваёй не пазнаў:
Праклятыя каты сядзяць за сталом,
Балююць, рагочуць, п'юць брагу з віном,
На покуце самым чарцей чарада
На скрыпцы Дубягавай грае чардаш,
І сына яго — аж жахнуўся глядзець —
Калыша не жонка, не маці, а смерць...
Прачнуўся Дубяга далёка да дня,
Хутчэй асядлаў баявога каня.
Сябрам-партызанам сказаў не чакаць
З глыбокай разведкі раней як дзён пяць.
Вось едзе ён полем, дубровай глухой;
Вось бачыць — займаецца неба зарой.
Ды толькі не сцяміў Дубяга: чаму
З-пад поўначы сонца ўзыходзіць яму,
Чаму абняло яно полымем даль
І ў Нёмане стала чырвонай вада, —
Пакуль не пабачыў з высокай гары,
Што дом яго свечкай хаўтурнай гарыць.
Стаў клікаць Дубяга бацькоў і сям'ю.
Кругом абышоў ён сялібу сваю.
Ніхто не азваўся.
Адно, ля прысад
Убачыў прыбіты нямецкі загад,
Ў якім абяцаў генерал Рыхард Зальц
Іудам сто тысяч рэйхсмарак даць,
Іудам, якія Дубягу змаглі б
Злавіць ці на след партызанскі ўзвялі б...
Дубяга загад гэты з дрэва сарваў,
Ды кінуць не кінуў, а ў шапку паклаў
І, як ашалелы, каня ён свайго
За смерцю нямецкай пагнаў наўздагон.



У крэпасці моцнай сядзіць Рыхард Зальц.
Ні куляй яго, ні штыком не дастаць,
Кругом гарнізона акопы, равы,
Атрады ўзброеныя вартавых —
На подступах, на скрыжаваннях шляхоў,
Каб хто з партызан не пралез, не прайшоў.
Сядзіць Рыхард Зальц,
Увайшоў веставы:
— Да вас, генерал, перабежчык!
— Заві!..
І вось, пахіснуўшыся, быццам сляпы,
Дубяга парог хаты пераступіў.
Ад постаці дужай яго у пакой
Павеяла ветрам, сасной баравой.
— Што ж хочаш сказаць мне? — пытаецца Зальц.
— Прышоў абяцанне я атрымаць, —
Гаворыць Дубяга, дастаўшы загад.
— Гут!
Слова свайго не бяру я назад.
Пакажаш стаянку Дубягі ў бары,
Заробіш яшчэ ад мяне на барыш. —
Маўчыць партызан.
Ён загледзеўся ў кут,
Дзе скрыпку убачыў сваю на палку.

— Што ж, згодзен?
— Мне платы не трэба, калі б
Пайграць мне на гэтай на скрыпцы далі...
І вось у Дубягавых чорствых руках
Іграе прамень серабраны смыка:
Над Нёманам вецер.
Між змрочных прысад
Шуміць дождж асенні, звініць лістапад...
На поўдзень у вырай лятуць жураўлі.
Даносіцца спеў калыханкі здалі.
Даносіцца знекуль сабакі выццё.
Трывожна шуміць над ракою трысцё.
Крадзецца ў вёску нямецкі атрад,
І залпы грымяць, і над стрэхамі хат,
Над крыкам смяротным, што ўзняўся да хмар,
Чырвонай завеяй гуляе пажар...
Іграе Дубяга, і ў Зальца пакой
Збіраюцца немцы ўсё большай гурбой.
Абселі ўсе лавы, услоны, сталы,
Ігры надзвычайнай паслухаць прышлі.
Адзін Рыхард Зальц спахмурнеў, быццам ноч,
Не зводзіць з Дубягі празорлівых воч.
Ён чуе, пазнаў, што іграе скрыпач,
Пазнаў — з-пад смыка чый зрываецца плач,
Пазнаў — чый, над Нёмнам, ахоплен агнём,
Гарыць, нібы свечка хаўтурная, дом,
Чый дыхае ў струнах разбуджаны гнеў...
Пазнаў Рыхард Зальц і усё зразумеў:
— Дык гэта ж — Дубяга!
Вяжыце яго! —
Зальц кінуўся да аўтамата свайго.
Але партызан апярэдзіў раней,
Дзве кінуў гранаты ад грому мацней,
І ўзрыў, што смяротным агнём прагрымеў,
Дакончыў Дубягавай скрыпкі напеў.
1946 г.

**Максім Танк**

1. Што ведаеш аб баладзе як аб літаратурным жанры?

2. Якія з апісанняў твора належаць да рэалістычных, а якія да фантастычных?

3. Якія рысы характару Дубягі паказаны ў «Баладзе»?

4. Што ведаеш аб народна-вызваленчых войнах у свеце?

5. Растлумач слова «каланіялізм» і пастарайся адказаць, якія краіны належалі або належаць да каланіяльных?

**Звесткі з тэорыі літаратуры**

## БАЛАДА

Вершаваны твор з акрэсленай падзеяй і сюжэтам. Ілюструе незвычайныя здарэнні. Аб'ядноўвае ў сваім змесце элементы рэалістычныя з фантастычнымі. Дарэвалюцыйныя пісьменнікі нярэдка выкарыстоўвалі ў баладах матывы рэлігійнай фантастыкі. У беларускай літаратуры першай баладай быў твор А. Рыпінскага «Нячысцік». У пазнейшым часе балады пісалі Ф. Багушэвіч — «Хцівец і скарб на святога Яна», Я. Колас — «Няшчасная маці» і іншыя. Сучасныя беларускія паэты часта выкарыстоўваюць жанр балады для характарыстыкі нязвыклых учынкаў савецкіх людзей, асабліва ў перыяд вайны. Прыкладам можа паслужыць твор М. Танка «Балада пра партызана Дубягу», або А. Куляшова «Камсамольскі білет», «Балада пра чатырох заложнікаў».



## Ля пасёлка Леніна

Памяці паўшых байцоў дывізіі імя Т. Касцюшкі

Мінае дзень за днём, за годам год мінае.
Каторы раз трава траншэі пакрывае
І восень засцілае іх лістом,
Дзе на палях, прасторах беларускіх,
Байцы праслаўленай дывізіі Касцюшкі
Спачылі непрабудным сном.

Магілы іх братэрскімі рукамі
Заўжды ўпрыгожаны, прыбраны тут вянкамі
З такіх жа кветак, сонечных, жывых,
Якія недзе і ў іх родным краі,
Па-над блакітнай Віслай расцвітаюць,
Ля іх сяліб і сцежак палявых.

Мы зналі іх і шчыра іх любілі,
Мы з імі хлеб свой франтавы дзялілі
У навальнічныя і памятныя дні.
І не было больш велічнай і вернай,
Як іх дарога на Радзіму. З верай
У перамогу крочылі яны.

Не, смерць не ў сілах вырваць іх ніколі
З перадавых радоў байцоў за волю!
Яны заўсёды з намі, як былі!
Няхай прадчасна зрок пагас юначы,
Але з іх кожны будучыню бачыў
На роднай вызваленай зямлі.

Ёсць іх уклад вячысты ў кожнай справе,
У кожнай цагліне адроджанай Варшавы,
У залатых зярнятах каласоў.
Іх голас чуеце вы ў песнях новых,
У шуме трактароў, гудках Дамбровы,
У рапартах будаўнікоў!



Не плачце, маткі, што ім лёс суровы
Сустрэць прышлося на шляху жыццёвым.
Бо што больш велічным на свеце можа быць,
Як подзвігам азоранае імя,
Як вернасць братняй дружбе і Радзіме,
Як слава іх, што вечна будзе жыць!
1953 г.

**Максім Танк**

1. Адшукай на карце Беларусі мясцовасць Леніна.
2. Што ведаеш аб бітве польскай дывізіі імя Т. Касцюшкі пад Леніна?
3. За што змагаліся польскія і савецкія войскі ў перыяд II сусветнай вайны?
4. Чаму паэт славіць польска-савецкую дружбу?

 

Сцеражы прыроду

# Вывады для чалавека

Пазбаўленыя жыцця цяперашнія пустыні ў Афрыцы і Азіі былі некалі жыццёрадаснымі краінамі. Сведчаць аб тым шматлікія знаходкі вучоных-археолагаў, якія сцвердзілі, што даўным-даўно на тым месцы, дзе цяпер сахарыйская пустыня, буйнелі непраходныя лясы, жылі багатыя людзі. Але неразважлівая, хцівая дзейнасць чалавека, які не лічыўся з законамі прыроды, давяла да спусташэння.

Так сталася тысячы год таму назад.

А ці сучасны чалавек зразумеў гэту ісціну гісторыі, ці зрабіў сабе адпаведныя вывады? Вось, створаная пятнаццаць год таму назад спецыяльная навуковая камісія, якая занялася доследамі працэсаў, адбываючыхся з прычыны неўласцівай і блізарукай гаспадарчай дзейнасці ў краінах Афрыкі і ў некаторых раёнах Злучаных Штатаў Паўночнай Амерыкі, сцвердзіла, што гэта дзейнасць пераўтварыла вялікія абшары ў пустынныя аблогі. Ураджайныя землі сталіся бескарыснымі агрэхамі.

Галоўная прычына таго заключаецца ў тым, што вынішчана вялікія абшары лясоў. У сувязі з тым пачалося вельмі актыўнае высушванне зямлі сонечнымі праменнямі. Абнізіўся ўзровень падземных водаў. Паявіліся гарачыя вятры, знішчаючыя вялізныя плантацыі, збожжавыя палеткі, пазбаўленыя заслоны, якою быў лес.

Сучасныя высокаразвітыя капіталістычныя краіны ўжываюць адміністрацыйны прымус у справах аховы прыроды. Тамтэйшы гаспадар абавязаны закупіць дрэўца, часта за дарагую цану, і пасадзіць яго ва ўказаным месцы. Абавязаны, пад страхам кары, дагледзець гэтае дрэўца і вырасціць яго ў прыгожым выглядзе. Наш урад не карыстаецца прымусам. Нашы ўлады імкнуцца да таго, каб людзі самі зразумелі ды захацелі заняцца аховаю прыроды, пасадкамі дрэўцаў. Дрэўцы атрымоўвае наш гаспадар наогул бясплатна, каб толькі хацеў засадзіць яго і па-людску дагледзець ягоны рост. Таму тым больш здзіўляючым з'яўляецца тое, што ў нашым народзе так мала цікавасці да гэтай надта важнай справы. Ба, наглядаецца абыякавасць да гэтай справы нават у людзей службова адказных за пасадку дрэў і ахову прыроды.

Здараюцца прытым часта хуліганскія выбрыкі пажылых гаспадароў, якія, як бы ў нічым не бывала, ламаюць маладыя дрэўцы пры дарогах, бо якраз нехапіла ім біча паганяць каня.

Масавыя пасадкі дрэў адбываюцца ў нас ад 1960 года. За гэты час высаджана каля 68 мільёнаў дрэў і каля 68 мільёнаў кустоў. З гэтага ўсяго **расце толькі палавіна!** Страты сягаюць мільёнаў злотых! Ці ж можна надалей заставацца абыякавымі да такой сітуацыі? Не!

Гэту справу час ужо паставіць ясна і гаварыць аб ёй на ўвесь голас! (СЯ)





З НАГОДЫ ДНЯ МІЛІЦЫІ

# ЯГО РАБОЧЫ ДЗЕНЬ

Капітан Дзміцёр Мялешка — афіцэр міліцыі ў Бельску — ужо 17 год на пасту міліцыйнай службы. А дарога ў міліцыю, можна сказаць, была выпадковая. Старэйшы сярод шматлікай сям'і, 18-гадовы Міця працуе ў будаўніцтве ў Гайнаўцы. Неспакойны час мабілізуе маладога хлопца да актыўнай барацьбы з ворагамі народнай улады, бандамі. Уступае ў ОРМО. Маладога і актыўнага армоўца хутка дасягае вока каменданта ОРМО, які прапануе Дзмітру працу ў органах міліцыі. Працу ў МО тав. Мялешка пачынае радавым міліцыянерам у Беластоку. Затым накіроўваюць яго ў двухгадовую школу афіцэраў міліцыі. Канчае яе і пачаткова працуе ў Любліне, а ў 1954 г. вяртаецца зноў на родную Беласточчыну. Ад некалькі гадоў працуе ў Павятовай камендатуры міліцыі ў Бельску Падляшскім. У міжчасе awansue на капітана міліцыі. Такі шлях маладога хлопца — рабочага, які выводзіцца з сялянскай сям'і, у цяжкай, адказнай і небяспечнай працы.

— Таварыш капітан, раскажыце аб нейкім цікавым дні вашай працы? — звяртаюся з запытаннем.



— Мне амаль усе яны аднолькава цікавыя. Але бывае і так, што ў дзень нармальна канчаеш працу, а гэтае «цікавае» пачынаецца ноччу. Напрыклад, 8 верасня г.г. Пасля працы, вечарам, дома аглядаю фільм. Тэлефон. Дыжурны афіцэр паведамляе, што перад хвілінаю камендантура МО у Высока-Мазавецку перадала тэлеграму: «У бальніцу ў Мазавецку прывезена маладога чалавека з ранаю ў баку, а другога цяжэй раненага адвезена ў Беласток. Выпадак быў на тэрыторыі Бельскага павета ля Гадышэва». Выдаю кароткія загады дыжурнаму афіцэру і за некалькі мінут траіх нашых работнікаў і я сярод цемры ночы едзем ў напрамку Гадышэва. Даехаўшы, пачынаем распытваць людзей: ці не чулі аб здарэнні і т.п...

— І як дапамаглі вам нешта вызначыць? — пытаюся.

— Абсалютна нічога. Потым, у час паказанняў, аказалася, што многія нешта ведалі, чулі, бачылі. Аб гэтым, аднак, мы ім даказалі, а не яны самі нам сказалі. А 2 гадзіне ночы мы даехалі да пункта аховы здароўя ў Лапскім павеце, адкуль забірала хуткая дапамога патурбаваных. Тут даведаліся як і што, але не ведаем хто? каго? за што? А 5 гадзіне раніцы (9.IX) мы ўжо ў бальніцы ў Мазавецку. Пацярпеўшым аказваецца М. Бжазоўскі, вучань V класа Механічнага тэхнікума. Мае адну рану нажом у левы бок. У $7^{30}$ (9.IX) мы былі ў другога пацярпеўшага С. Варэцкага — (1947 года нарадж.) у Хірур-

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# ВЯЛІКАЯ ПРАБЛЕМА

Яшчэ не так даўно бульба расла ў нас толькі на агародах. Сёння яна стала незвычайна папулярнай, займае на Беласточчыне амаль 200 тыс. гектараў. У структуры пасеваў бульба ўсё яшчэ ўступае першынства збожжу. Ураджай яе даволі добры, у апошнія гады каля 160 ц. з гектара. У гэтым сэнсе маем нават лепшыя вынікі, чым сярэднія па краіне. У гэтым годзе сярэдні ўраджай складзе каля 172 ц з гектара.

Існуе пераконанне, што мы ўмеем вырошчваць здаровую бульбу. Горш з яе перахоўваннем. Страты часам даходзяць да 20%, а нярэдка марнуецца і палова бульбы. Таму варта пазнаёміцца з агульна прынятымі правіламі перахоўвання бульбы. Найлепш перахоўваецца бульба пры тэмпературы каля 4°C. Тады страты складаюць толькі 9,4%. Пры зніжэнні тэмпературы да 0°C страты павышаюцца да 14,5%. Павышэнне тэмпературы да 14°C спрыяе развіццю плесені, а пры 20° вельмі хутка развіваюцца гнільныя бактэрыі.

Існуюць розныя спосабы перахоўвання бульбы. На зіму бульбу ссыпаюць у ямы або капцы, часткова ў склепы. У апошні час у некаторых краінах моднымі сталі цэментаваныя равы (менш працы, менш трэба саломы, лепшая рэгуляцыя тэмпературы, магчымасць правядзення дэзінфекцыі, меншыя страты кармавых рэчываў).

У сувязі з тым, што ў склепе шмат не змесціш, а бетонных равоў у нас яшчэ не робяць, большая частка бульбы перахоўваецца ў звычайных капцах. Шырыня капца 120—150 см, а даўжыня залежыць ад патрэб (пераважна не даўжэй 20 м).

Спосаб насыпкі і пакрыццё капца аказвае ўздзеянне на аптымальную тэмпературу (каля 4°C) і вільготнасць, каб клубні вельмі моцна не паравалі. Бульбу звозім у прызмы, а затым пакрываем яе пластом саломы і нятоўстым пластом зямлі. Вентылятары (многія сяляне наогул забываюць аб іх) павінны быць адкрытымі. Хрыбет капца па ўсёй даўжыні не прысыпаем зямлёй, даем толькі больш саломы на яго, але ўкладваем салому так, каб па ёй лёгка сплывала дажджавая вада. Калі надыходзяць маразы, трэба зноў зацікавіцца капцамі. Тады трэба насыпаць яшчэ зямлі і пакрыць лэнтамі. Калі салома мокрая, трэба яе змяніць. Тэмпературу рэгулюем пры дапамозе вентылятараў.

Вясною, калі ўмовы дазваляюць, адкрываем капцы. У першую чаргу правяраем, як бульба перазімавала. Перабіраем яе, адкідаем гнілую і нават трошкі надпсаваную. Перабіраць бульбу можна пры тэмпературы 8—10°C.

Інж. **М. Сухажэбрскі**




*«Дзе можна заразіцца трыхаманадным кальпітам (жэнсістэк) і як яго лячыць?» — пытаюць многія жанчыны.*

*Што такое трыхаманадны кальпіт?*

*Гэта запаленне слізістай абалонкі похвы, якое выклікаецца мікробам — похвеннай трыхаманадай. Жанчыны заражаюцца трыхаманадным кальпітам найчасцей праз неасцярожнае карыстанне з агульнай прыбіральні ці кепска вымытай ванны або таза (міскі). Можна заразіцца таксама купаючыся ў забруджаным, стаячым вадаёме, пазычаючы ад сяброўкі ношаны але не пасціраны (якая з'яўляецца хворай трыхаманадным кальпітам) купальны касцюм ці касцюм да гімнастыкі. Заражэнне адбываецца і палавым шляхам (пры палавых зносінах).*

**КШЫШТАФ ВУЙТОВІЧ**

# З-ПА-НАД ВАРТЫ НА ЭБРУ

У гэтым годзе асабліва ўрачыста святкавалася 30-тая гадавіна пачатку грамадзянскай вайны ў Іспаніі, а многія з нас першы раз даведаліся, што аж 5 тысяч палякаў змагалася за Пірэнеямі за «Вашу і нашу свабоду». Тады часта насоўвалася пытанне: чаму пайшлі, што прымусіла іх да барацьбы, для якой пакідалі краіну і сем'і і ішлі на невядомы лёс. З 5 тысяч — 3 тысяч пала на іспанскай зямлі.

На гэтыя пытанні дае нам адказ выдадзена нядаўна кніжка Юзэфа Зюлкоўскага, вядомага партыйнага дзеяча, члена экзекутывы КВ ПАРП у Беластоку «Праз чатыры граніцы» — старонкі з яго жыццёвай біяграфіі з 1911 — 1943 гадоў. Гэта пазіцыя — унікум, таму што да гэтага часу, акрамя кніжкі Зофіі Шлейн «Вятракі і месершміты», не выйшлі яшчэ з друку ў Польшчы ўспаміны, якія б гаварылі аб механізме дастацца «там», аб генезісу даспявання да самога рашэння пайсці за Пірэнеі.

Летапіснае, эканомнае апісанне Зюлкоўскага складае захапляючую кніжку. Ці гэта будзе вобраз яго дзіцячых год, ці барацьбы ў III Шлёнскім паўстанні — ці таксама лаканічна, але з летапіснай дакладнасцю спісаныя факты дзейнасці сярод рабочых Чэнстаховы, яго класавага росту ад МОПР-у да КПП.

Сам пачатак кніжкі адразу нам многае тлумачыць. «Не ведаю, за што і пры якіх абставінах царская паліцыя арыштавала ў 1905 г. майго бацьку. Не пакінуў нічога па сабе, нават здымка. Калі памёр у турме, мне скончылася два гады, а сястры — чатыры гады». (стар. II).

Набліжаецца першая польская незалежнасць і 1929 год. Крызіс. Беспрацоўе.

Юзэфу Зюлкоўскаму польскі фашызм паказаў свае іклы ўжо ў Чэнстахове, у час допытаў у «Дэфе».

«Калі я адчыніў дзверы, у пакоі было многа сышчыкаў. Не паспеў я перайсці праз парог, а ўжо мяне стукнулі пісталетам па галаве. Кроў з разбітай галавы сцякала на вочы. Я не мог нават сарыентавацца, каторы з сышчыкаў знуткоўваецца нада мною... Я атрымоўваў удары з усіх бакоў. Нават калі я страціў прытомнасць і ўпаў на падлогу, мяне білі нагамі...» (стар. 55)

Тыя, хто перабіраўся «праз чатыры граніцы» ведалі, што гэтай дарогаю вядзе шлях да іншай Польшчы. Таму на заклік КПП праз усе забароны і бар'еры; паасобку і групамі ішлі з Польшчы ў Іспанію добраахвотнікі — побач з камуністамі таксама сацыялісты і народнікі. Прыбыў у Іспанію дзеяч КПЗБ Мікалай Дворнікаў, псеўданім «Станіслаў Тамашэвіч». Загіне ён гераічна на раўніне пад узгоркамі Сера Квэмада.

Дамбраўшчакі прыбылі ў Іспанію як першыя міжнародныя добраахвотнікі, а адступілі апошнімі. Толькі 9 лютага 1939 года брыгада імя Ярослава Дамброўскага самкнутымі радамі перайшла супольна з іншымі міжнароднымі добраахвотнікамі іспанска-французскую граніцу. Спасярод жывых не было амаль нікога, хто не быў бы некалькі разоў ранены.

Вярталася іх менш чым палова прыбыўшых сюды тры гады таму.

Юзэф Зюлкоўскі 14 красавіка 1939 г. адплывае з Гаўра ў СССР. Тут яго застае чэрвень 1943 года.

 



**ПАЎЛІНКА**

Сцэна са спектакля «Паўлінка» Янкі Купалы ў пастаноўцы Беларускага акадэмічнага тэатра. У ролях: «Агата — народная артыстка БССР Вера Пола, Пустарэвіч — народны артыст СССР Глеб Глебаў.

З практыкі старой гаспадыні

## Дыэтэтычныя памідоры на зіму

Спелыя, але яшчэ цвёрдыя памідоры злажыць у шкляную або каменную пасудзіну, перакладаючы лісцем: вішнёвым, дубовым, чорнай парэчкай ды кропам. (І памідоры і лісце добра вымыць у пераваранай вадзе, ад гэтага залежыць іх трываласць).

Аблічыць, колькі трэба вады, каб заліць памідоры, і на кожны літр пераваранай вады ўсыпаць сталовую лыжку солі, лыжку цукру і да ўсяго (калі вады не больш 3—4 літраў) таблетку аспірыну. Калі аспірын распусціцца, заліць памідоры, каб вада аж зверху стаяла. Абвязаць пергаментнай паперай вельмі шчыльна, найлепш гумкай, каб не даходзіла паветра. Так прыгатаваныя памідоры здаровыя і маюць смак свежых. Л. В.

**ВЕЛАСІПЕДАМ ПРАЗ АФРЫКУ**

27-гадовы нігерыйчык Фемі Алюке рашыў напісаць кніжку аб развіцці афрыканскіх краін. Для сабрання матэрыялаў выбраўся ён 25 жніўня 1964 года ў падарожжа па краінах Афрыкі на веласіпедзе і да гэтага часу аб'ехаў 9 краін. (мф)

# Ці звяры ваююць паміж сабою?

Ад часоў Дарвіна павялося перакананне, што ў барацьбе за быт звяры вядуць паміж сабою заўзятыя войны.

Сапраўдная сітуацыя цалкам іншая. Звяры вельмі рэдка ваююць паміж сабою. Даходзіць да барацьбы паміж імі толькі ў такіх выпадках, калі не маюць іншага выйсця, а найчасцей тады, калі ашалелыя са страху і здэзарыентаваныя.

Найважнейшай прычынай барацьбы паміж звярамі гэта адхілянне другога звяра ад добрага месца паляванняў або грызня за самку. Метады барацьбы вельмі падобныя да тых, якімі карыстаюцца часта людзі: пазуры, зубы, капыты і т.п. Ёсць звяры, якія бароняцца распырскваннем розных смярдзючых рэчываў, вытвараемых у іх арганізме. Хрушч, званы, «бамбардыерам» распыльвае ў небяспечным кірунку арганічны раствор, якога запахі прымушаюць праціўніка ўцякаць чым далей ад яго.

Звяры карыстаюцца ядам. Вужы кусаюць, запускаючы такім чынам у арганізм яд; падобная тэхніка ў пчол, осаў, чмялёў. Ёсць рыбы, якіх арганізмы вытвараюць высокі электрычны ток, нават да шасцісот вольтаў. Гэтым токам, электрычнай іскрай, паражаюць праціўніка, які праследуе іх.

Аўстрыйскі прыродазнавец Конрад Ларэнц даследваў прычыны, якія абмяжоўваюць агрэсіўнасць звяроў. Назіраючы за паводзінамі ваўкоў і сабак заўважыў ён, што паміма вялікай рывалізацыі, да барацьбы даходзіць наогул рэдка. Што больш цікава, бой паміж імі не заўсёды канчаецца смерцю. Аказалася, што ў пэўным моманце барацьбы паміж сабою робяцца яны лагоднымі. Але толькі ў тых момантах, калі выразна відаць перавагу аднаго праціўніка над другім. Слабейшы праціўнік паддаецца выстаўляючы шыю, а мацнейшы праціўнік часта рэзігнуе са сваёй перавагі і канчаецца ўсё як бы перамір'ем. У прыродазнаўчых навуках гэта з'ява падатлівасці вядомая пад назваю «рытуала падатлівасці». Найчасцей гэты «рытуал» наглядаецца сярод млекакормячых звяроў, радзей сярод птушак. У мышэй — пераможаны праціўнік выстаўляе горла і жывот, як часткі цела найбольш далікатныя. Птушкі падымаюць лоб і падстаўляюць яго праціўніку, з чаго праціўнік не заўсёды карыстае і абое застаюцца ў жывых.

Існуюць яшчэ больш, так сказаць, субтэльныя метады ў звяроў, каб захаваць сваё жыццё і абысціся без барацьбы. Гэта пакуль што застаецца яшчэ таямніцай для прыродазнаўцаў. Менавіта, звяры ствараюць выгляд вялікай небяспекі і тым самым палохаюць свайго напраўду небяспечнага праціўніка. Жыве ў цёплых краях матыль, які ў выпадку небяспекі для сябе з боку птушкі, падымае заднія крылы і выдушвае з сябе крыклівы галас. Птушка палохаецца і ўцякае ад яго. Над Амазонкаю, у бразільскіх джунглях, жыве малпа, якая апынуўшыся ў небяспечнай сітуацыі пачынае раўсці так голасна, што славуты львіны рык выдаецца толькі піскам. Чалавек чуецца зусім аглушаны гэтым рычаннем, здараюцца выпадкі, што нават глохне.

А сваёй дарогаю звычаі звяроў, спосабы іх абароны і барацьбы часта вельмі выразна прыпамінаюць нам аб спосабах некаторых людзей. Напышлівая грознасць падшытая страхам, галосная крыклівасць некаторых нашых суседзяў, якія такім чынам хочуць чагосьці дабіцца, вельмі прыпамінае спосабы звяроў. (а-ся)

# Мала, але цікава

**ЭЛЕКТРЫКА І ТЭЛЕВІЗАР**

Маем у краіне ўжо 2,5 мільёна тэлевізараў. Калі ўсе яны пачынаюць працаваць, расходуюць 300 мегаватаў энергіі — моц сярэдняй электроўні.

**КАГО НАЙБОЛЬШ?**

Працаўнікоў якіх галін прамысловасці маем найбольш? Вось чаргова: 1 мільён металарабочых (28 тысяч адна Новая Гута), 400 тысяч рабочых валакна, столькі ж гарнякоў, 300 тысяч рабочых хімічных заводаў.

**ТОЛЬКІ ФІЛОСАФЫ НЕ!**

Якой з'яўляецца сучасная вайна? Ёй патрэбны ўжо не толькі вайсковыя, але і эканамісты, эксперты камунікацыі, спецыялісты дакладных навук, сацыёлагі, псіхолагі. Толькі філосафаў яна пакуль не патрабуе, прызнаючы, відаць, сябе надта рэалістычнай.

**НАТУРАЛЬНЫЯ БАГАЦЦІ ПОЛЬШЧЫ**

Адны з найбольшых у свеце залежы цынкова-алавяных руд знаходзяцца ў Польшчы. Звыш дзесятка мільёнаў тон чыстага цынку. Польшча займае шостае месца пасля Канады, ЗША, СССР, Аўстраліі і Мексікі. У Еўропе — першае.

**«СТРАШНЫ» ХОЛАД**

У навуцы паявілася новая галіна «крыёфізіка». Займаецца яна нізкімі тэмпературамі аж да мінус 273, 15°С. Нізкія тэмпературы атрымліваюцца праз скрапліванне паветра пры велізарным ціску. Вялікае застасаванне крыёфізіка мае ў медыцыне пры т.зв. крыёхірургіі. Напрыклад: людская свежая скура дасканала перахоўваецца, замарожаная вадкім азотам. Яна нават пасля 608 дзён такога замарожання прыймаецца на іншым целе як свежая.

**МОЖНА СКЛЕІЦЬ КОСЦІ І НЕРВЫ**

Двух савецкіх вучоных прафесар і інжынер-хімік апрацавалі метад склейвання касцей. Клей зрабілі з жывіцы. Праз некалькі год дасканалілі яны свой метад і зараз пры яго дапамозе можна склейваць (выпрабавана на сабаках) косці, мускулы, жылы і... нервы. (вл)



**СЯДЗІБА ВЯСКОВАЙ АРГАНІЗАЦЫІ**

«Ось Саская» — новы цэнтр сталіцы. Кругом яшчэ пуставата, кіпіць работа. А гмах Галоўнага камітэта Аб'яднанага стронніцтва людовага (вул. Гжыбоўская) высіцца сваёй цікавай фігурай — празрыстай і роўнай. Паветра і пахі вёскі, як бачым, вокны новага будынку дапусцяць у сваё нутро. (вл)

# Таямніцы станцыі „П-Т-Ікс”

Й. ГОРНУНГ

АББЕР ІДЗЕ Ў АТАКУ

У лістападзе 1941 года ўсе гітлераўскія органы контрразведкі прыступілі да шырока запланаванай акцыі па знішчэнню тайных перадатчыкаў. Новая ганіёметрычная апаратура, якой былі забяспечаны пеленгатарныя пункты і ліквідацыйныя атрады, служыла гарантыяй поспеху.

Шэф абвера адмірал Канарыс меў у пачатку лістапада спецыяльную нараду па гэтаму пытанню з начальнікам СД Рэйнгардам Гейдрыхам. Адмірал Канарыс быў больш чым упэўнены, што апошнія няўдачы армій групы «Цэнтр» былі ў значнай ступені абумоўлены прасочваннем сакрэтных даных аб аператыўных планах ОКВ да ведама рускіх.

— Мы павінны зрабіць усё, што толькі ў нашай сіле, не лічачыся з затратамі і цяжкасцямі, — гаварыў Канарыс Гейдрыху, — каб як мага хутчэй выкрыць інфармацыйныя крыніцы рускіх. У сувязі з гэтым я прапаную неадкладна накіраваць арганізаваныя намі групы пеленгатараў і ліквідацыйныя атрады ва ўсе вялікія гарады і раёны, дзе дзейнічаюць савецкія перадатчыкі. Гэтую акцыю неабходна правесці ў найглыбейшай таямніцы. Людзей, якіх удасца нам схапіць, трэба любой цаной схіліць да супрацоўніцтва з намі і паводле нашых указанняў.

30 лістапада 1941 года ў $21.^{00}$ тры групы з нядаўна сфарміраванай ганіёметрычналіквідацыйнай роты абвера былі пагружаны ў Монскіх казармах на грузавікі і накіраваліся ў напрамку Бруселя.

Камандзірам гэтай невялікай калоны, вылучанай са складу 621 роты, быў лейтэнант Мозер. Умовы, у якіх трэба было праводзіць акцыю, былі надзвычай цяжкія. «П-Т-Ікс» перастала падаваць свае пазыўныя, шыфруючы іх кожны раз новай камбінацыяй лічбаў. Гэты новы ўмоўны знак быў, праўда, праз некаторы час дэмаскаваны, але станцыя патрабавала ад пеленгатараў безупыннага, чуйнага назірання. Функ-абвер устанавіў, што на тэрыторыі Бруселя або ў яго ваколіцах з 17 лістапада працавалі аж тры перадатчыкі, прычым кожны з радыстаў карыстаўся тым жа дыяпазонам і той жа ўмоўнай камбінацыяй лічбаў, што «П-Т-Ікс».

Мозер згодна з планам сфарміраваў тры ганіёметрычныя групы і расставіў іх у розных пунктах Бруселя так, што яны ўтварылі велізарны трохкутнік. Першы замер быў праведзены ў 22.50, другі — назаўтра раніцай, у 5.45. З дакладнасцю да мінуты ў абодвух выпадках таямнічы перадатчык уключаўся, перадаваў некалькі кароткіх тэкстаў і тут жа выключаўся. Аднак гэтага было дастаткова, каб правесці дакладныя замеры. Першы паказваў 350°, другі — 310°, трэці — 248°. Праверыўшы даныя і нанёсшы іх на план горада, лейтэнант са злосцю заўважыў, што пеленгацыйныя лініі двух першых замераў і трэцяга не перасякаліся паміж сабой.

— Нехта з вас дапусціў памылку, — крыкнуў Мозер пеленгатарам 3-й групы.

— Немагчыма, пан лейтэнант, — апраўдваліся салдаты. — Мы праверылі вынік двойчы і за кожным разам атрымлівалі тую ж велічыню вугла.

У наступны дзень Мозер і яго людзі з раніцы ўжо былі на вызначаных месцах. Зробленыя замеры пацвердзілі ты я ж вынікі пеленгацыі, што былі атрыманы і ўчора. Цяпер Мозер зразумеў, што тут нешта сапраўды не ў парадку, і загадаў зрабіць кантрольныя замеры на ўласную радыёстанцыю. Толькі зараз ён змог пераканацца, што кожны з ганіёметраў даваў розныя паказчыкі. Ва ўсіх трох выпадках пагрэшнасць вагалася ў межах ад 5 да 6 градусаў.

Лейтэнант Мозер звярнуўся за дапамогай да шэфа абвера ў Парыжы палкоўніка Рэлінга, які неадкладна выслаў у Брусель тры ганіёметры, выпушчаныя іншай фірмай. Адначасова паведамілі аб сабатажы ў Берлін.

2 снежня 1941 года часць лейтэнанта Мозера магла зноў пачаць работу. Праз некалькі дзён яго людзям удалося лакалізаваць два

# ТРЫБУНА чытачоў



## Памідоры

Бразілійскі сорт памідораў «De Barao» ўжо папулярны ў Бельску. У гэтым годзе на многіх прысядзібных участках (дзялках) рабочыя садзілі якраз гэтыя памідоры. На доследным полі Педагагічнага ліцэя рабіліся вопыты. Вынік: памідоры могуць расці ў нашым клімаце. Куст расце да 3 метраў вышыні, а на ім 200 штук памідораў.

На здымку: члены аграбіялагічнага гуртка пры Педагагічным ліцэі ў Бельску збіраюць апошнія плады.

**П. Зінкевіч**

## Замест змяншэння — прырост

Павятовая камісія планавання і статыстыкі пры Прэзідыуме ПРН у Саколцы планавала зменшыць на 1% пагалоўе коней у 1966 годзе. У выніку — замест змяншэння, наступіў прырост пагалоўя коней. Зразумела, чаму так сталася. Калі гаспадар год пагадуе бычка, то возьме за яго 2 тысячы злотых. А калі пагадуе жарабя год, то за яго на рынку возьме 10—12 тысяч злотых. Ёсць яшчэ і другая прычына росту пагалоўя коней. Часта чытаем у газетах, што купляюцца рабочыя коні за граніцу, дзе яны цэняцца на вагу золата.

**А.С.**

---

перадатчыкі. Адзін з іх дзейнічаў у квартале Муленбек, другі — у Эгербеку, у паўночнай частцы Бруселя.

Шэф брусельскай пляцоўкі абвера маёр Майер вырашыў пачаць ліквідацыю з перадатчыка ў квартале Муленбек.

Тры грузавікі, набітыя агентамі абвера ў цывільным і супрацоўнікамі СД, спыніліся ў трох розных пунктах горада — на плошчы княжны Брабанцкай, каля касцёла Яна-Баціcты і на вуліцы дэ Кегельбрыг. Ганіёметрысты зрабілі апошнія кантрольныя замеры. Маёр Майер разам з Мозерам і невялікай групай салдат накіраваліся на пошукі «П-Т-Ікс». Лініі каардынатаў сыходзіліся на квадраце жылых дамоў з мноствам агародзікаў, за якімі цягнуліся прыгарадныя сады. Станцыя павінна была знаходзіцца ў другой віле, лічачы ад канца маленькага завулка. Перад домам нейкая старая жанчына адкідвала снег.

— О, д'ябал, гэта тут, — сказаў Майер.

— І я так думаю.

— У такім выпадку пачынайце...

*(Працяг будзе)*

## Непатрэбныя скаргі і шум

У складах Гміннай спулдзельні ў Крынках (другіх складах таксама) гэтая гісторыя паўтараецца. Многа цэменту прадаецца людзям без мяшкоў. Паўстае калатня. Людзі не хочуць браць цэменту ў бульбяныя мяшкі, а папяровых не можна дастаць. Знаёмым і сваякам загадчыкі склада даюць цэмент у мяшках. Увесь гэты шум і калатня непатрэбны і можна лёгка іх пазбыцца.

Вядома, што фабрыкі-цэментоўні выпускаюць цэмент у добрым апакаванні. Даюць мяшкі, якія можна многа разоў выладоўваць і заладоўваць. Бяда ў тым, што брыгада, якая выгружае цэмент з вагонаў, кідае мяшкі на рампу або ў самаход без ніякай асцярожнасці, быццам знарок, каб разбіць іх. Таксама робіцца і ў складах гміннай спулдзельні Крынкі. Прывезены цэмент брыгада выкідае з самахода размашыста, і мяшкі лопаюць. Наша прапанова: не разбіваць мяшкоў, не будзе наракання і шуму, што цэмент прадаецца людзям у ГС-е ўрассыпную.

**А.С.**

## Купляюць жалуды

Гайнаўскі ПЗГС дагаварыўся з гандлёвай цэнтраляй на збор і продаж жалудоў. Жалуды з Белавежскай пушчы маюць спецыфічную якасць, характэрную толькі гэтым лясам. Іх прадаюць заграніцу. Існуе там запатрабаванне толькі на белавежскія жалуды — на іншыя не.

Гайнаўскі ПЗГС лічыць, што добры сёлеташні ўраджай жалудоў дазволіць на вялікі іх збор. Успомненая гандлёвая цэнтраля здольная закупіць каля пяцісот тон белавежскіх жалудоў. Плаціць каля трох злотых за кілаграм.

Прыёмам жалудоў займаюцца ГС-ы ў Нараўцы, Белавежы і Нарве. Асабліва шмат жалудоў — каля 150 тон — намераны закупіць ГС у Нараўцы. (ся)




Дарагое Сэрцайка!

Цікава, што ты, Сэрцайка, скажаш на маю справу. Я сама не магу яе вырашыць.

Мая мама мае больш 50-ці гадоў. Даўно асталася ўдавой і гадавала нас, трое дзяцей, сама. Замуж не выйшла. На вёсцы мой брат пайшоў у прымы, другі таксама, а я выйшла замуж і жыву ў Беластоку. Аднак мужа маю не найлепшага, таму ўсяляк мне прыходзіцца. Мама мая апошнім часам перабралася да мяне жыць. І мне было вельмі добра. Пільнавала маіх двое дзяцей, а таксама займалася домам. Я працую. Аднак мой муж не захацеў, каб пры нас жыла мая маці. Мо таму, што яна не маўчала, а ў вочы яму гаварыла аб яго дрэнных паводзінах і адносінах да мяне. Мама нам уступіла і выбралася на вёску. Аднак там мы не маем ніякай гаспадаркі. Мама мая пазнаёмілася з адным удаўцом з суседняй вёскі. Ён астаўся таксама сам на гаспадарцы. У апошнюю нядзелю мама прыехала да мяне, каб параіцца, што ёй рабіць. Ці выходзіць за яго замуж, ці не. Я сама і не пярэчу маме, але што скажуць людзі на вёсцы, што ў такіх гадах выходзіць замуж. Я нічога маме не адказала, аднак мама чакае на мой адказ, бо браты сказалі, хай робіць, як ёй падабаецца, а ўзяць яе да сябе не хочуць. Чакаю парады.

**Оля**
з Гайнаўшчыны

Дарагая Оля!

Вельмі добра, што ты не супраць гэтаму, каб твая мама выходзіла замуж. І ты павінна ёй як найхутчэй аб гэтым сказаць, і не толькі, але павінна пераканаць яе ў тым, што яна добра робіць. Ніхто з вас не хоча цяпер гадаваць маці (гэта вельмі прыкра), таму найлепшым выйсцем будзе, калі маці выйдзе замуж. Тым больш, што гэта добры чалавек і гаспадарка добрая. Маці будзе напэўна добра і матэрыяльна і жыццё на старасць удваіх вясялейшае і лягчэйшае. Жадаю тваёй маме многа шчасця і здароўя.

**Сэрцайка**

## Школьная рэформа ў Сямяціцкім

З праектаваных 71 васьмігадовай школы ў Сямяціцкім павеце адкрыта ў гэтым годзе толькі 59. Звязана гэта з тым, што многія вучні з некаторых школ пайшлі ў сярэднія школы, да восьмага класа засталося па 2—3 асобы, і таму ўтрымоўванне для іх класа было б немэтазгодным.

Сямяціцкі аддзел асветы дадаткова прыняў да працы ў гэтым годзе 55 абсальвентаў педагагічных ліцэяў і настаўніцкіх студый. Нягледзячы на гэта надалей у павеце не хапае 12 настаўнікаў, каб поўнасцю запоўніць штаты, а таксама 8 настаўнікаў на замяшчэнне.

Памяшкальныя патрэбы школ абяспечана наймаючы ад гаспадароў 59 памяшканняў на класы, бібліятэкі і майстэрні і 49 памяшканняў для настаўнікаў. Многа дапамог тут Прэзідыум павятовай рады ў Сямяцічах, які дадаткова прызначыў на гаспадарчыя выдаткі 460 тысяч злотых. (ак)

## Эх, і фірма

У Саколцы ўсе ведаюць, што калі што-небудзь пачне будаваць мясцовая рамесная будаўнічая спулдзельня, канца будовы не ўбачыш. Хай Бог сцеражэ спадзявацца на саліднасць гэтай фірмы.

Узяліся гэтыя «будаўнікі» будаваць у Карыціне крамы і якіясьці магазіны. Пішу «якіясьці», бо невядома, калі пачнуць будаваць тыя магазіны і наогул нічога тут толкам невядома! Вядома напэўна адно: рамеснікі п'юць-запіваюцца.

Тэрмінаў заканчэння будовы можна налічыць цэлую літанію. А кожны тэрмін быў, так сказаць, пэўны, як сонца на небе! Але за выпіўкаю хто там бачыць сонца...

Аж дзіва бярэ, што вясковы гандаль хоча даць гэтай фірме каля шасці мільёнаў злотых на збудаванне новых гандлёвых аб'ектаў! Ці не будуць гэта выкінутыя ў балота грошы; ці можна верыць у салідную работу гэтых несалідных будаўнікоў?

(ся)

## Новая крама ў Шудзялаве

Гмінная спулдзельня «Самапомач хлопска» ў Крынках збудавала новую краму ў Шудзялаве з прыбочным складам. Усе тавары разложаны ў новай краме на стойках і на полках. Гэта крама добра прадстаўляе Шудзялава. Першы раз з цікавасцю куплялі людзі ў гэтай краме спажывецкія тавары.

А. С.

## Ідзе бурак



Першымі прывезлі цукровыя буракі на пункт скупу гаспадары з раёна Бранска. За некалькі першых дзён звезена 6.308 цэнтнераў буракоў. Ураджай іх добры. Цукру хопіць.

На здымку: на скупачным пункце ў Бранску.

**П. Зінкевіч**

## ЦЭНЫ

Баяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер у Беластоку і Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (ў злотых):

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | 360 | 350 | 300 |
| пшаніца | цэнт. | 500 | 450 | 440 |
| яйкі | 1 шт. | 2 | 2 | 1,80 |
| масла | кг | 60 | 60 | 52 |
| ялавічына | кг | 35 | 28 | — |
| свініна | кг | 36 | 37 | — |
| сала | кг | 34 | 35 | — |
| бульба | кг | 1,20 | 0,80 | 0,90 |
| цыбуля | кг | 4,75 | 6 | 4 |
| капуста | кг | 2,50 | 2 | 1 |
| морква | кг | 2 | 2,50 | 2 |
| буракі | кг | 2 | 2 | 2 |



Праграма
На 11—16.X.1966 г.

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Белавежа**
„Tytoń" (bułg.), 11—12. „Następcy tronów" (włoski), 13—14. „Złoto" (polski), 15—16.

**Кляшчэлі**
„Tanganica" (radz.), 11—12. „John i Erdme" (NRF), 13—14. „Niedziela sprawiedliwości" (polski), 15—16.

**Дубіны**
„Mam 20 lat" (radz.), „Kiermasz" (NRF), 15—16.

**Нарва**
„Gorąca linia" (polski), „Jojo" (franc.), 12—16.

**Нараўка**
„Milczenie" (polski), „Kronika jednego dnia" (radz.), 12—16.

**Чыжы**
„Jesienny dzień" (wietnamski), „Kapral i inni" (węgierski), 12—16.

**Дубічы Царкоўныя**
„Małpia kuracja" (wietnamski), „Skrawek ziemi ojczystej" (radziecki), 12—16.

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Боцькі**
„Lęk" (czeski), „Testament uczonego" (radz.), 12—16.

**Орля**
„Mam tu swój dom" (polski), „Artysta do wszystkiego" (radz.). 12—16.

**Райск**
„Olbrzym" (USA), „Kosmos wzywa" (radz.), 12—16.

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Гарадок**
„Baza ludzi umarłych" (polski), „Fatalny list" (angl.), 12—16.

**Міхалова**
„Spotkanie z Warszawą" (polski), 11—12. „Nieletni świadek" (angl.), 13—14. „O carski tron" (bułg.), 15—16.

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Нурэц**
„Porucznik Marynin" (radz.), 11—12. „Sklep przy głównej ulicy" (czeski), 13—14. „Rękopis znaleziony w Saragossie" (polski), 15—16.

**Мілейчыцы**
„Złodziej brzoskwiń" (bułg.), 11—12. „Starsza pani bez godności" (franc.), 13—14. „Barwy walki" (polski), 15—16.

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Крынкі**
„Światła w oknach" (radz.), 11—12. „Pojedynek" (radz.). 13—14. „Dziewczyna kłamie" (jugosłowiański), 15—16.

**Шудзялава**
„Czas miłości" (rumuński), „Kuba w ogniu" (kubański). 12—16.

**Сідра**
„Oddajcie mi dziecko" (NRD), 11—12. „Normandia — Niemen" (radz.), 13—14. „Trzy kroki po ziemi" (polski), 15—16.

**Сухаволя**
„Dotknięcie nocy" (polski), „Dzwonić Northside 777" (USA), 12—16.

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Новы Двор**
„Był sobie dziad i baba" (radziecki), „Dziewczyna z fotografii" (jugosł.), 15—16.

**Ліпск**
„Gorąca linia" (polski), „Jazz, jazz, jazz" (franc.), 15—16.

**НІВА**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP ;Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.
Nakład 5965. Błtk D-3

# Бяда ад ботаў

Вось і настала восень. Пара, падумаў я, на зіму боты падбіць. Быў у нас, у Вялікай Дулі, шавец дасканалы. Нікішкай яго звалі. Два гады таму памёр, царства яму...

А сын яго — таксама шавец — яшчэ за Нікішкі ўцёк у Беласток, на кіраўніка арцелі выбіўся. Дык няма каму ў нас папраўляць ботаў. Чуў, што ў вёсцы Разявы ёсць шавец. Гэта недалёка ад нас. Пайшоў.

— Чаму не, магу папраўляць вашыя боты, але не раней, як на Каляды, — сказаў разяваўскі шавец і пацягнуў пальцам па шыі: — Работы ў мяне — о, так!

Паехаў я ў горад. Прынялі мяне ветліва, выдалі квітанцыю і за два тыдні сказалі з'явіцца.

— Даруйце, — ветліва звяртуўся да мяне кіраўнік, калі я з'явіўся ў назначаны тэрмін, — на жаль, не паспелі яшчэ зашыць адной дзіркі. Можа пачакаеце? Не доўга, 2—3 гадзіны.

Чакаць я не мог, бо апошні аўтобус ад'язджаў. З'явіўся за тыдзень.

— Ох, прыкра нам, — расклаў рукі гэты ж самы кіраўнік, — але наш тэхнічны кантроль зрабіў засцярогу адносна якасці дратвы, якой мы зашылі дзірку ў вашых ботах. Другой дратвы, на жаль, мы не маем. Прыдзецца пачакаць. — Як доўга?! — спытаў я жаласна.

— Ну, можа і тыдзень, можа два... дакладна паінфармуе вас старшыня нашай спулдзельні. Ён прымае інтэрэсантаў у сераду ад 10 да 12.

Прыехаў я ў сераду. Прыгожая паненка заглянула ў кабінет і заявіла:

— У старшыні сёння важная нарада па справе спраўнейшага абслугоўвання кліентаў. Прыёму сёння не будзе.

Пабег я ў майстэрню і кажу, каб аддалі мне боты без папраўкі. — Без папраўкі, на жаль, не можам. Яны ў нас усюды ў квіты заведзены. Як жа мы разлічымся? Рахункавод не адчэпіцца. Стукнуў я дзвярыма і паехаў дамоў. На другі дзень раніцай жонка кажа:

— Ашукалі цябе, Андрэй, парваныя боты назад выдалі.

— Хто табе гаварыў? Наадварот... — Дык паглядзі, — і падсоўвае мне пад нос мае апошнія туфелькі. Сапраўды, асталіся яны без падносак. На гарадскіх тратуарах я іх знасіў. Бяда без ботаў, але з ботамі яшчэ горш.

**Асака**

# НІЎКА

### САКРАТАВЫ «РОЗДУМЫ»

Быццё нашага народу
Думкай перабраў ён з ходу
І стварыў з лёгкай рукі
Не артыкул, а пасквіль.
Людзі «роздумы» чыталі,
Галавой (з дзіва) ківалі,
Ну і думалі: «Сакраце,
Ці ж ты з глузду, з'ехаў, браце?»
А Прашковіч з Мінска проста
Крытыкнуў «роздумы» востра,
Факты даказаў не збіты,
Шле Сакрату ліст адкрыты.
Гэты ліст, мае браткі,
Слова ў слова, усе радкі,
Прачытаў я й гукнуў: — Брава!
Мікалаю з Мінска — слава!
Ліст паслужыць усім у навуку,
Абы з чым не лезь да друку.

**Міхась Красоўскі**
**Малынка**

### НЕДАХОП НЯВЕСТЫ

— Чаму ты не ажэнішся з ёю?
— Яна мае адзін недахоп.
— А які?
— Часам заікаецца. І ніяк не можа сказаць «згодна».

### ПОМСТА

### З ПАВАГАЮ

У сталоўцы селянін, убачыўшы дзядзьку з пугаю ў руках, падышоў да яго і вельмі прымільна звяртаецца: — Пане солтысе, калі ласка, прашу да майго стала. Солтыс трохі пачырванеў і, круцячы ў руках пугу, адказаў:
— Ты, Кастусь, не называй мяне солтысам, я ж звычайны чалавек!..
І з солтысаўскай павагаю вельмі звычайна сеў за столік... (ва)



— Дачка! Гэта канчаткова, сястра?



Кароль на дыеце.



Усё людское нам не чужое.

### ПАМЫЛІЎСЯ

У аўдыторыю, дзе ідуць экзамены па хіміі, уваходзіць студэнт.

Ён падыходзіць да стала, бярэ білет і чытае яго змест.
Прафесар: — Кніжку.
Студэнт, схамянуўшыся, спалоханымі вачыма паглядзеў на прафесара. Левая рука павольна ўзнялася да пояса, дзе пад пінжаком знаходзіўся падручнік па хіміі.
Прафесар: — Давайце кніжку.
Студэнт: — Я... я.... я не...
Прафесар: — Давайце заліковую кніжку!
Студэнт: — Дык вы... вы адразу б так і сказалі.

### АПРАЎДАЎСЯ

Міша прыходзіць са школы, мама прымільна звяртаецца да яго і пытае: — Ну, скажы мне, мой сыночак, што ты мне сягоння прынёс?..
— Толькі 4, мама...
— А пакажы дзіцятка сшытак!
Міша падае сшытак, маці перагортвае старонкі і кажа:
— Эх, сын! Як табе не сорамна ілгаць, зноў прывалок мне двойку!?.
Міша: — А тут другая! То колькі разам будзе? Ці ж ты, мама, ужо забыла лічыць?! (ва)

### У КАЛЕГІІ

— Вы, грамадзянін Даўгарукі, у нецвярозым выглядзе нарушылі канстытуцыю, і мы цяпер вас згодна з законам пакараем штрафам!..
Даўгарукі: — Прашу мне даць голас...
Старшыня калегіі: — Ну, калі ласка, што вы яшчэ хацелі сказаць?..
Даўгарукі: — Я хачу сказаць, што мой сусед наблытаў. Я, хаця быў п'яны, добра памятаю і магу прысягнуць, што зусім і пальцам не крануў канстытуцыю, толькі звычайна — пабіў морду... (ва)

### АКЕНЦА ДУМАК

**Не варта жыць таму, у каго няма ніводнага сапраўднага сябра.**
**Дэмакрыт**

### КАМУ НЯМА КАРЫСЦІ АД НАВУКІ

Адзін мудрэц сказаў:
— Навука дае яшчэ больш розуму разумнаму, але дурню яна толькі шкодзіць. Якраз так сонца дапамагае бачыць здаровым вачам і шкодзіць вачам хворым.

### ЁН ПАЧАКАЕ

— Мама, я не пайду больш у школу!
— ?!
— Наша настаўніца пазаўчора гаварыла, што 5+3 будзе 8. Учора яна сказала, што 6+2 таксама будзе 8. А сёння яна сказала, што 7+1 будзе 8. Я пачакаю лепш, пакуль настаўніца навучыцца правільна лічыць.

### ПАКУЛЬ НЕ НАВУЧЫЦЦА

Адзін чалавек вучыўся плаваць і ледзь не ўтапіўся.
— Да д'ябла! — сказаў ён. — Пакуль не навучуся добра плаваць, у ваду больш не палезу.

### МОЖА

— Ці можа ўжо ваша малая гаварыць?
— О, так, цяпер мы вучым яе маўчаць.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ніны Кірыловіч з Нарвы, Гайнаўскага павета, змяшчаем песню п.з.

## ЛАНДЫШИ

Ты сегодня мне принес
Не букет из пыльных роз,
Не тюльпаны и не лилии.
Протянул мне робко ты
Очень скромные цветы,
Но они такие милые.

Припев:

Ландыши, ландыши, —
Светлого мая привет.
Ландыши, ландыши, —
Белый букет.

Пусть не ярок их наряд,
Но так нежен аромат,
В них весны очарование,
Словно песенка без слов,
Словно первая любовь,
Словно первое признание.

Припев.

Я не верю, что года
Гасят чувства иногда.
У меня другое мнение —
Верю, будешь каждый год,
Пусть хоть много лет пройдет,
Ты дарить мне в дни весенние.

Припев.

## Курёзы

### Спаборніцтва

Адзін з багатых самадураў амерыканскага горада Тэнесі ўстанавіў узнагароду ў суме 1 тысячы долараў для «прыяцеля звяроў і насякомых штата Луізіяна, які адкорміць адну або некалькі мух да рэкордных размераў».

Выдача ўзнагароды павінна адбыцца пасля агляду вырашчаных журы, якое склікаецца для гэтай мэты кожны год.



### Помнік

На магільніку ў Белградзе пастаўлены надмагільны помнік з наступным зместам: «Тут спачывае І. П., жонка скульптара. Помнік пастаўлены на вечную памяць яе няўцешным мужам, а таксама можа служыць узорам прадукцыі скульптара. Падобны помнік каштуе ўсяго 5 тысяч дзінараў».

### Перспектывы

Вядомая заходнегерманская абутковая фірма накіравала ў адну з афрыканскіх краін двух гандлёвых экспертаў для высвятлення магчымасцей экспарту сваёй прадукцыі. Неўзабаве адзін з іх паведаміў: «Няма ніякіх перспектываў для экспарта абутку: усе ходзяць босыя». Другі ацаніў становішча так: «Перспектывы цудоўныя: усе ходзяць босыя».



**Скандаліст бойка арудуе языком, але гэта яшчэ не значыць, што ён ведае родную мову.**